Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22140
Адрас для карэспандэнцыі: 220088,
г.Мінск,вул. Іванаўская, 56
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 2 кастрычніка 1998 г. № 105 Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Нават «Форд» спыніўся

**Канвеер завода беларуска-амерыканскага СП «Форд-Юніон», што пад Мінскам, прастойвае ўжо амаль месяц.**

Як паведаміў прадстаўнік СП па сувязях з грамадскасцю Дзмітрый Мокшын, спыненне працы асноўных вытворчых магутнасцяў завода напрамую звязана з фінансавым крызісам у Расіі. Цяжкасці, у прыватнасці, узніклі ва ўзаемаадносінах СП з расійскімі дылерамі, якія, не маючы магчымасці для набыцця валюты, не ў стане разлічвацца за аўтамабілі. З-за прастою вытворчасці частка рабочых завода «Форд-Юніон» была накіраваная ў бліжэйшы калгас, дзе на працягу двух тыдняў аказвала дапамогу ва ўборцы бульбы. Зараз рабочыя аказваюць дапамогу ва ўборцы ўраджаю ў садзе па вырошчванні лекавых траў і раслін. Па словах Д.Мокшына, кіраўніцтва завода пайшло на гэты крок, каб «людзі былі занятыя і атрымлівалі 100-працэнтную зарплату». Астатнюю частку работнікаў кіраўніцтва спрабуе неяк заняць непасрэдна на самім заводзе: у працоўны час яны ўдасканальваюць свае веды па розных напрамках і вывучаюць англійскую мову.

Дзмітрый Мокшын падкрэсліў, што ніякіх звальненняў у сувязі з крызісам у Расіі на прадпрыемстве не было і не будзе, а кампанія «Форд» згортваць у Беларусі сваю зборачную вытворчасць пакуль не збіраецца.

*БелаПАН*

## Дом для спартсменаў

**У Мінску 5 кастрычніка адбудзецца цырымонія закладкі першага дома жылога комплексу «Алімпійскі», прызначанага для спартсменаў, трэнераў і работнікаў спартыўных арганізацыяў краіны.**

Комплекс будзе складацца з чатырох 9-павярховых дамоў, якія будуць пабудаваныя ў канцы праспекта Машэрава, побач з Акадэміяй фізічнай культуры і спорту. На працягу двух гадоў плануецца пабудаваць 276 кватэр палепшанай планіроўкі. У цырымоніі закладкі першага дома будзе ўдзельнічаць прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

*БелаПАН*

## Дэмакраты збіраюць Кангрэс

**Беларуская апазіцыя рыхтуе правядзенне Кангрэса дэмакратычных сілаў.**

У Кангрэсе возьмуць удзел дэлегаты ад палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў, прафсаюзаў, а таксама пісьменнікі, мастакі, навукоўцы. Аргкамітэт па правядзенні Кангрэса ўзначальвае Генадзь Карпенка. Канкрэтная дата мерапрыемства пакуль не вызначаная. Па словах Г.Карпенкі, хутчэй за ўсё Кангрэс пройдзе ўзімку.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Месяц за кратамі

**Роўна месяц знаходзіцца ў следчым ізалятары Віцебска актывіст БНФ Уладзімір Плешчанка.**

Плешчанку падазраюць у дэмантажы бюста Суворава ў цэнтры Віцебска ў ноч з 1 на 2 верасня. Нагадаем, што адказнасць за гэтую акцыю ўзяў тады легендарны Мірон. Але следчыя ўпэўненыя, што помнік зняў менавіта Плешчанка, але ніякіх доказаў яго віны ў следства няма.

А тым часам няўлоўны Мірон нагадаў пра сябе ў Мінску. У ноч з аўторка на сераду, на 80-метровым коміне ЦЭЦ-3, што ў Чыжоўцы, быў вывешаны вялізны бел-чырвона-белы сцяг з прымацаванай традыцыйнай запіскай. На гэты раз невядомы падпольшчык з Віцебшчыны пратэставаў супраць візіту ў Беларусь расійскага прэм'ера Яўгена Прымакова.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Дапаможам Сахаліну!

**Беларускі ўрад збіраецца аказаць дапамогу пацярпелым ад пажараў на Сахаліне. Пра гэта нам паведамілі ў дэпартаменце па гуманітарнай дапамозе.**

Як сказаў дырэктар дэпартамента Віктар Кучынскі, плануецца ў першую чаргу накіроўваць харчаванне і адзенне. В.Кучынскі распавёў, што дэпартамент працягвае прымаць «гуманітарку» для жыхароў Беларусі з заходніх краінаў, а найбольш — з Германіі. В.Кучынскі лічыць, што «гуманітарнай дапамогі, як і грошай, заўсёды не хапае».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**РАСІЙСКІ** прэм'ер-міністр Яўген Прымакоў, які ў сераду наведаў Мінск, назваў свой візіт вельмі плённым. Ён сказаў, што перамовы з прэзідэнтам Лукашэнкам *«былі максімальна дзелавыя і прагматычныя»*. У сваю чаргу прэзідэнт Беларусі заявіў: *«Гэтая сустрэча каштавала многіх папярэдніх сустрэчаў». «Няхай тыя, хто гаворыць, што сёння няма Саюза, не разлічваюць і не супакойваюць сябе ілюзіямі. Ён ёсць і, магчыма, будзе яшчэ мацнейшым»*, — сказаў Лукашэнка.





## Вінаватая Расія?

**«Ці паўплываў крызіс у Расіі на Ваша матэрыяльнае становішча?» Менавіта такое пытанне задавалі жыхарам Мінска 25—29 верасня супрацоўнікі сацыялагічнай службы «Зеркало».**

Больш за палову (53 працэнты) з 600 апытаных дарослых жыхароў Мінска адзначылі, што іх матэрыяльнае становішча «стала горшым». Паляпшэнне адзначылі толькі 3 працэнты рэспандэнтаў. 19 працэнтаў адказалі, што наступствы крызісу іх пакуль не закранулі, але яны думаюць, што «ў хуткім часе стане горш». Для 11 працэнтаў мінчан «нічога не змянілася».

Адказваючы на пытанне «З чым вы ў большай меры звязваеце перабоі ў забеспячэнні мінчан прадуктамі харчавання?», 12 працэнтаў рэспандэнтаў указалі на крызіс у Расіі. Такая ж колькасць рэспандэнтаў звязвае ўзнікшыя прадуктовыя праблемы з дзяржаўнымі пастаўкамі прадуктаў у Расію. Кожны чацвёрты апытаны (26 працэнтаў) паправкнуў чыноўнікаў у няздольнасці выконваць даручаную справу. 9 працэнтаў лічаць, што прычына перабояў з прадуктамі харчавання — іх вываз з Мінска «чаўнакамі», а 5 працэнтаў бачаць прычыну ў неўраджайнасці гэтага года. Больш як адна трэцяя апытаных (35 працэнтаў) лічаць, што перабоі з прадуктамі выкліканыя дзеяннем усіх пералічаных прычын.

*БелаПАН*

## Помнікі на любы густ

**Міністэрства культуры запланавала ўстанавіць у Беларусі больш за 200 помнікаў, шыльдаў і мемарыялаў. Аднак на гэтую справу не хапае фінансаў.**

У Мінску, магчыма, хутка з'явіцца помнік Францыску Скарыну. На паскарэнне працы прэзідэнт выдзеліў са свайго фонду 13 мільярдаў рублёў. Складаней з помнікам Адаму Міцкевічу, на які міністэрства збіраецца папрасіць у прэзідэнта 4 мільярды рублёў. А вось на помнік палкаводцу Жукаву грошы будуць шукаць у міністэрстве абароны або ў мінскага мэра Ярмошына.

Прасцей з падарункамі. Маскоўскі мэр Лужкоў падараваў прэзідэнту Лукашэнку помнік Пушкіну, які гарадскія ўлады паставяць у пачатку чэрвеня будучага года ў раёне вуліцы Камуністычнай.

Такі ж вінегрэт з помнікаў будзе характэрны для ўсёй тэрыторыі краіны. У Іванаўскім раёне, напрыклад, хочуць займець бюст камуніста Пятра Машэрава, а ў Полацку — помнік Святой Еўфрасінні Полацкай. У Калінкавічах ушануюць «афганцаў», а ў Віцебску — героям Грунвальдскай бітвы. У Гомелі збіраюцца насыпаць свой Курган Славы і паставіць сваю «Родину-мать». У Століне з'явіцца памятны знак дабрачынніцы Марыі Радзівіл, мастаку Казіміру Малевічу — у Віцебску і Дзянісу Фанвізіну — у Верхнядзвінску.

Найбольшую колькасць помнікаў збіраюцца ўзвесці ў Магілёўскай вобласці. Нагонт Шклова — нічога невядома.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Бізнес пад крылом

**Учора адбылася ўстаноўчая канферэнцыя яшчэ адной псеўдаграмадскай арганізацыі, створанай пад патранажам дзяржавы — Беларускай канфедэрацыі прадпрымальнікаў.**

Сам Аляксандр Лукашэнка палічыў патрэбным прыйсці на канферэнцыю і зрабіць даклад перад «вшивыми блохами» (так ён некалі назваў прадпрымальнікаў). У рабоце канферэнцыі таксама ўзялі ўдзел прэм'ер-міністр Сяргей Лінг і іншыя афіцыйныя асобы. Міністр прадпрымальніцтва Аляксандр Сазонаў у сваім выступе адзначыў, што суб'екты прадпрымальніцтва ў Беларусі працуюць больш эфектыўна, чым дзяржаўныя прадпрыемствы.




*Наш асобы шлях у рынак.*

Ці сведчыць стварэнне Канфедэрацыі пра змяненне стаўлення да прадпрымальнікаў? Наўрад ці. Хутчэй за ўсё, цяперашняя ўлада проста хоча за чарговым разам прадэманстраваць свой клопат аб усіх без выключэння сферах жыцця. І, натуральна, падмяць прадпрымальніцтва пад сябе, зрабіць яго цалкам падпарадкаваным. Праўда, пасля гэтага яно ўжо не будзе «свабодным прадпрымальніцтвам» — але такое рэжыму і не патрэбнае.

Бізнесмены, з якімі давялося паразмаўляць, ставяцца да стварэння Канфедэрацыі вельмі скептычна і не маюць ілюзіяў наконт таго, што пасля гэтай падзеі антырынкавы, антыпрадпрымальніцкі курс улады зменіцца ў лепшы бок.

**Зміцер ЛІХТАРОВІЧ**

### *Суседзі*

***Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма выказаўся за неадкладную ратыфікацыю беларускім парламентам Дагавора аб дзяржаўнай мяжы паміж дзвюма краінамі. Гэта адпавядае ўзаемным інтарэсам, адзначыў украінскі прэзідэнт на сустрэчы з прэм'ер-міністрам Беларусі Сяргеем Лінгам, які знаходзіўся ў Кіеве з візітам.***

### *Дапамога*

***Міжнародная Федэрацыя Чырвонага Крыжа заклікала сусветную грамадскасць аказаць гуманітарную дапамогу бедным людзям у Расіі, Украіне, Малдове і Беларусі.***

### *Інтэграцыя*

***Аляксандр Лукашэнка і Яўген Прымакоў дамовіліся правесці ў Маскве 16 кастрычніка паседжанне Выканаўчага камітэта Саюза Беларусі і Расіі.***

### *Візіты*

***У другой палове кастрычніка Беларусь з візітам наведае намеснік генеральнага сакратара ААН Серджыо дэ Мэла, які курыруе чарнобыльскія пытанні.***

### *Салідарнасць*

***Алена Бонэр, удава вучонага Андрэя Сахарава, выказала падтрымку беларускім палітзняволеным — дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Уладзіміру Кудзінаву, Андрэю Клімаву і народафронтаўцу Аляксандру Шыдлоўскаму.***

## Чыноўніка затрымалі за 5 тысяч долараў хабару

**Пра гэты выпадак мы ўжо паведамлялі, але цяпер з'явіліся новыя падрабязнасці.**

Як стала вядома, чыноўнік з апарата Савета міністраў Мікалай Аляксееў быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ Беларусі пры атрыманні хабару ў памеры 5 тысяч долараў. М. Аляксееў працаваў ва ўпраўленні прамысловасці Савета міністраў і курыраваў працу нафтаперапрацоўчага комплексу.

Праваахоўныя органы даўно зацікавіліся крыніцамі даходаў Мікалая Аляксеева. Адной з прычынаў гэтай цікаўнасці было тое, што М.Аляксееў набыў новую іншамарку, хоць зарплату меў адносна невысокую.

Пакуль невядома, хто і за якія паслугі прапанаваў чыноўніку пяць тысяч долараў.

*БелаПАН*

## Іншамарку можна прадаць

**Для гаспадароў замежных аўтамабіляў ёсць прыемная навіна.**

Пастановай Савета міністраў часова дазволены продаж аўтамабіляў, на якія накладзена забарона мытні на адчужэнне на працягу двух гадоў. Як вядома, дагэтуль быў такі парадак, што на аўтамабілі, увезеныя ў Беларусь і растаможаныя па льготным тарыфе (0,3 ЭКЮ за кубічны сантыметр аб'ёму рухавіка), накладалася забарона на адчужэнне. Іншымі словамі, на працягу двух гадоў уладальнік увезенага аўтамабіля не меў права яго прадаваць, дарыць, закладваць, перадаваць па даверанасці (акрамя блізкіх родных). Калі ж гаспадар жадаў прадаць аўтамабіль, яму неабходна было заплаціць дзяржаве вялікую мытную пошліну, якая часам перавышала кошт самой машыны.

Як паведамілі ў Дзяржаўным мытным камітэце Беларусі, новая пастанова Саўміна ўжо ўступіла ў сілу, яна распаўсюджваецца як на аўтамабілі, увезеныя раней, так і на тыя, што падлягаюць рэгістрацыі.

*БелаПАН*

*Здарэнні*

## Скралі прэзідэнцкі падарунак

**Моцна не пашанцавала камбайнеру з Віцебшчыны Вячаславу Шароху.**

У яго скралі новыя «Жыгулі», падораныя Аляксандрам Лукашэнкам падчас нядаўніх «Дажынак», як аднаму з пераможцаў сёлетняга жніва.

Як паведаміла газета «Звязда», прэзідэнцкі падарунак у камбайнера скралі ў Мінску. Цяпер яму застаецца толькі з роспачу глядзець на памятны фотаздымак, дзе ён сфатаграфаваны на фоне той самай «дзявяткі», якую ўжо наўрад ці ўдасца знайсці.

**Язэп СІНІЦКІ**

## Ну і людзі!

**Супрацоўнікі міліцыі горада Орша былі вельмі здзіўленыя, калі раз'ятраны натоўп прывёў у аддзяленне 30-гадовую жанчыну ў адных трусах.**

Высветлілася, што людзі заспелі яе за крадзяжом бульбы на адным з дачных участкаў. Дачнікі моцна збілі жанчыну, распранулі і здалі ў міліцыю.

*ІМА-прэс*

## Карпенка хоча сустрэцца з Лукашэнкам

**Гэта не прыватная ініцыятыва вядомага апазіцыйнага палітыка. Такое даручэнне сп.Карпенка атрымаў ад Нацыянальнага выканаўчага камітэта (ценявога ўрада), які дзейнічае пры Вярхоўным Савеце 13-га скліканне.**

Генадзь Карпенка, які з'яўляецца кіраўніком гэтага камітэта, мае намер прапанаваць Лукашэнку сустрэцца з апазіцыяй, каб разам абмеркаваць шляхі выхаду з эканамічнага крызісу. Як нам паведаміў Генадзь Карпенка, афіцыйны спіс прапаноў будзе неўзабаве падрыхтаваны і на працягу кастрычніка перададзены ў прэзідэнцкую адміністрацыю. У якасці мераў па выхадзе з крызісу апазіцыя прапануе прэзідэнту засяродзіць увагу не толькі на супрацоўніцтве з Расіяй, але і з іншымі суседзямі Беларусі, спыніць палітыку фінансавай падтрымкі стратных прадпрыемстваў і г.д. Ці прыслухаецца прэзідэнт да гэтых прапаноў?

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Куды масла прапала?

**Апошнімі днямі ў мінскіх крамах стала праблематычна купіць самае звычайнае сметанковае масла. У чым прычына дэфіцыту?**

У міністэрстве гандлю нам патлумачылі, што сметанковага масла завозіцца ў крамы столькі ж, колькі і раней — зніжэння паставак не было. Іншая справа, што людзі сталі набываць больш беларускага масла, бо яно цяпер каштуе куды танней у параўнанні з імпартным маргарынам і алеем.

У міністэрстве гандлю добра ведаюць, як змагацца з дэфіцытам: *«Трэба проста навесці парадак на рынках, і дэфіцыту масла не будзе»*. Але ці не стане потым праблемай набыць маргарын і алей? Бо наўрад ці хто захоча гандляваць гэтымі прадуктамі па «ўпарадкаваных» цэнах.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Гомелю дапамогуць немцы

**Старшыня нямецкай дабрачыннай арганізацыі «Дапамога Гомелю» Дзітэр Кнаўтц, які прыехаў з чарговым візітам у Гомель, паведаміў аб падрыхтоўцы гуманітарнага канвою з медыкаментамі на суму 1,5 мільёна нямецкіх марак, які будзе дастаўлены ў горад у лістападзе.**

Гэтая дабрачынная нямецкая арганізацыя ўжо больш за пяць гадоў супрацоўнічае з медыцынскімі ўстановамі Гомеля. Аказаная ёю дапамога ацэньваецца амаль у 10 мільёнаў нямецкіх марак, прычым у асобныя гады яна забяспечвала трэцюю частку патрэб гарадскіх бальніц у леках. Гэтым разам Дзітэр Кнаўтц адрасуе дапамогу былым вязням канцлагераў і гета — іх у Гомелі 2.300 чалавек. Цяперашні прыезд прадыктаваны неабходнасцю абмеркаваць з мясцовымі ўладамі механізм размеркавання дапамогі.

*БелаПАН*

## Цэнтр для былых «зэкаў»

**Неўзабаве ў Гомелі адкрыецца Цэнтр сацыяльнай рэабілітацыі людзей, якія вярнуліся з месцаў пазбаўлення волі.**

Справа гэтая вельмі актуальная. Не сакрэт, што значная колькасць злачынцаў пайшлі на крымінал, бо не бачылі іншага спосабу выжыць у цяперашняй эканамічнай сітуацыі.

На рэканструкцыю будынка, у якім размесціцца цэнтр, з абласнога бюджэту выдзелены 1,5 мільярда рублёў. Праўда, гэтага мала. Не хапае грошай на абсталяванне і ўнутраную аддзелку памяшкання. Аднак, не зважаючы на гэта, цэнтр распачаў работу і ўжо аказаў дапамогу 85 былым зняволеным. Адных размясцілі і прапісалі ў інтэрнатах, другіх паклалі падлячыцца ў бальніцы, іншым дапамаглі атрымаць новыя дакументы. Асноўны ж напрамак дзейнасці цэнтра — працаўладкаванне былых зняволеных. Па словах начальніка Васіля Літвінава, працаваць яны будуць на прадпрыемствах горада, якія маюць свае інтэрнаты. Літвінаў упэўнены, што гэтыя захады дазволяць знізіць на Гомельшчыне працэнт рэцэдываў сярод былых зняволеных.

**Н.Ш.**



*Сярэдняе ўжыванне агароднiны на душу насельніцтва Беларусі на 45—65 працэнтаў ніжэйшае за медыцынскія нормы. Па звестках з урада Беларусі, асноўнай прычынай такога становішча з'яўляецца скарачэнне пасеваў агароднiны ў калгасах і саўгасах; за апошнія 10 гадоў яны скараціліся ў два разы. Апошнім часам Беларусь закупляе за валюту нават капусту, моркву, цыбулю.*

# Сход рыхтуе інтэрвенцыю знізу

*У мясцовую ўладу хочуць пусціць замежнікаў*

У прэзідэнцкім парламенце абмяркоўваецца праект закона, па якім будуць выбіраць дэпутатаў у мясцовыя Саветы. Мяркуючы па гэтым дакуменце, мясцовая ўлада ў Беларусі па-ранейшаму будзе залежаць ад прэзідэнцкай вертыкалі. Але самае дзіўнае, што стаць дэпутатамі мясцовых Саветаў змогуць грамадзяне іншай краіны.

Згодна з праектам, які зараз абмяркоўваюць у Нацсходзе, права ўдзельнічаць у мясцовых выбарах у нашай краіне атрымаюць грамадзяне Расійскай Федэрацыі, якія пастаянна пражываюць у Беларусі. А гэта, як правіла, дастаткова ўплывовыя людзі: дыпламаты, бізнесмены, вайскоўцы.

Парадак фінансавання выбараў плануецца такі, што можна будзе выкарыстоўваць не толькі асабістыя сродкі, але і грошы прадпрыемстваў і ўстаноў. Вядома, што ў нашай краіне 90% усіх грошай кантралюе дзяржава. Такім чынам, дзяржаўная ўстанова пры жаданні пераможа любога канкурэнта-адзіночку.

**Падводныя камяні, што закладзены** ў праект закона «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў», накіраваныя і супраць палітычных партыяў. Улада вырашыла да мінімуму абмежаваць іхнія магчымасці для манеўра. Напрыклад, на папярэдніх выбарах партыі часта вылучалі адразу па некалькі кандыдатаў на адно месца, а потым здымалі неперспектыўных на карысць саюзнікаў. Гэтай тактыцы вырашана пакласці канец. Тых, хто будзе здымаць кандыдатаў, чакаюць грашовыя «санкцыі» — ім прыйдзецца кампенсаваць выдаткі, якія дзяржава патраціла на перадвыбарчую агітацыю.

У астатнім новы закон будзе вельмі падобны на той, што **дзейнічае сёння. Каб выбары** адбыліся, у іх павінны будуць прыняць удзел 50% выбаршчыкаў. А каб перамагчы, трэба будзе атрымаць падтрымку паловы з тых, што прагаласавалі. Менавіта з-за гэтых вельмі жорсткіх патрабаванняў зараз трэцяя частка мясцовых Саветаў не сфарміраваная. Цэнтральную ўладу, відаць, такое становішча не турбуе.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Ад Уладзівастока да Слоніма за 159 дзён

**На 159-ты дзень дасягнуў Слоніма расіянін Генадзь Міхайлаў, які выехаў з Уладзівастока на ровары ў канцы красавіка.**

Са Слоніма ён накіраваўся ў Прыбалтыку, каб даехаць да Санкт-Пецярбурга, дзе нарадзіўся. Сваё падарожжа расіянін збіраецца закончыць у Маскве, каб адтуль выехаць цягніком дахаты.

Падарожніку 60 гадоў. Па прафесіі ён журналіст і таму па дарозе наведвае рэдакцыі некаторых газет. 52-ой па ліку стала «Газета Слонімская». Аб сваім падарожжы Г.Міхайлаў збіраецца напісаць кнігу. Едзе ён на мінскім ровары «Аист». Спыняецца па дарозе, як кажуць, у добрых людзей. Сёлетні маршрут пралягаў праз Сярэднюю Азію і Каўказ. Першы свой велапрабег ён зрабіў тры гады таму ў межах свайго Прыморскага краю, за 21 дзень праехаўшы 2.435 кіламетраў. У 1996 годзе ён пераадолеў за 121 дзень 12 тысяч кіламетраў ад Уладзівастока да Брэста. Наступным разам падарожнік збіраецца праехаць па Кітаі. Дазвол кітайскіх уладаў ужо ёсць, патрэбны толькі гід, бо кітайскай мовай уладзівастоцкі журналіст не валодае.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**




*Мінская рэклама.*

# Фотацэнзура ў Крычаве

*У загадчыка райаддзела культуры свой погляд на мастацтва*

**Да нас вяртаюцца часы, калі чыноўнікі лепш за ўсіх ведаюць, што можна паказваць людзям, а што нельга.**

У райцэнтры Крычаў Магілёўскай вобласці загадчыку мясцовага аддзела культуры не спадабаліся некалькі здымкаў з выставы «Позірк» фотамастака Уладзіміра Марачкоўскага. Гэтая выстава прымяркоўвалася да Дня горада. Яна была дазволеная і ўзгодненая з раённым цэнтрам культуры, у чыіх сценах і размяшчалася. Аднак пільны аматар мастацтва вырашыў пракантраляваць, што ж пакажуць людзям у падведамасным памяшканні. Чыноўнік запатрабаваў зняць фотаздымак «Супрацьстаянне». На ім помнік Леніну суседнічае з праваслаўным храмам. Хоць гэта рэальны крычаўскі відарыс, але «распальвае сацыяльную варожасць». Падазрэнні ў пільнага аматара мастацтва выклікаў фотакалаж «Чырвоны трохкутнік». На ім увогуле ніякіх палітычных рысаў. Але загадчык аддзела ўбачыў і ў гэтым нейкую крытыку савецкай мінуўшчыны. Не пацярпеў чыноўнік і калажу «Акт». Маўляў, паколькі ў калажы выкарыстоўваецца вывява жаночай грудзі, гэта парнаграфія.

Уладзімір Марачкоўскі — удзельнік шматлікіх айчынных і міжнародных выставаў, лаўрэат прэстыжных конкурсаў. Але ён быў вымушаны зняць свае фотаздымкі і дэманціраваць выставу. Бо як выказаўся выканкамаўскі начальнік: «Калі не ты, то іх сарву я». Гэта ў нас рабіць умеюць.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# «Мы стварылі Саюз вызвалення Беларусі»

Артыкул Аляксандра Старыкевіча «Хто вы, доктар Рагуля?», змешчаны ў газеце НАВІНЫ 21 жніўня 1998 г., падштурхнуў мяне напісаць свае ўспаміны з маіх юнацкіх гадоў.

Упершыню жыццёвы лёс звёў мяне з Барысом Рагулем у 1942 годзе ў Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. Я быў вучнем першага курса, а ён — настаўнікам. Гэта быў таленавіты арганізатар, шчыры беларус, сапраўдны патрыёт Беларусі, палымяны прамоўца, слаўны вайсковец, мой кумір, адзін з тых маладых беларусаў, якія ў маю юнацкую душу да канца майго жыцця залажылі беларускі патрыятызм. Ён на 7 гадоў старэйшы за мяне (Рагуля нарадзіўся 1 студзеня 1920 года, я — 1 студзеня 1927 года). У семінарыі ён быў актыўным арганізатарам розных гурткоў, спартыўных мерапрыемстваў, вечарынаў. Я вельмі добра памятаю некаторыя жыццёвыя дробязі, якія ён, вядома, не можа памятаць. На адной з вечарынаў Рагуля кіраваў танцамі (ён і сам быў выдатным танцорам). Ён заўважыў у куточку мяне, сарамлівага вясковага хлапчука, падыходзіць да мяне, бярэ за руку, падводзіць да дзяўчыны і пускае нас у вір танцаў. Я атрымаў першую магчымасць патанцаваць з дзяўчынай, якую сардэчна кахаў (першае маё каханне), за што я быў яму вельмі ўдзячны.

Барыс Рагуля персанальна прымаў мяне ў сябры Саюза беларускай моладзі (СБМ), чым я вельмі ганарыўся.

Падчас летніх выкацыяў 1943 года Рагуля арганізаваў са студэнтаў-добраахвотнікаў летні лагер і быў ягоным кіраўніком. Мы пашылі з белага даматкнага палатна аднолькавую для ўсіх прыгожую форму: на левым рукаве бел-чырвона-белая павязка, на галаўным уборы «Пагоня», гальштук з беларускага даматкнага пояса, чаравікі на драўлянай падэшве, якія рабілі шмат грукату на навагрудскім бруку. Кожная раніца пачыналася ў лагеры з пад'ёму флагштока бел-чырвона-белага сцяга, спявання гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Потым снедалі (харч прывозілі для агульнай кухні бацькі з вёсак) і маршам з патрыятычнымі беларускімі песнямі ішлі ў лес на нарыхтоўку дроваў для настаўніцкай семінарыі.

Пазней Барыс Рагуля арганізаваў у Навагрудку Беларускую Краёвую Абарону (БКА). Гэта быў кавалерыйскі швадрон (эскадрон). Касцяком швадрона сталі хлопцы-добраахвотнікі з III курса Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. Афіцэрамі былі выключна беларусы. Негалоснай мэтай БКА была абарона Беларусі, беларускага насельніцтва як ад немцаў, так і ад камуністаў, партызанаў, стварэнне беларускай незалежнай дзяржавы. Насельніцтва Навагрудчыны з павагай называла вайскоўцаў швадрона «рагуляўцамі».

Я прысутнічаў у Навагрудку на пахаванні загінуўшых чатырох хлопцаў у сутычцы з партызанамі 24 сакавіка 1944 года ў Забалоцці. Памятаю прозвішча аднаго з іх — Мамчыц. Вонкава швадрон выглядаў вельмі прыстойна, прыгожа, і я марыў стаць у ягоных шэрагі. Але я быў занадта малады. Атрымаўшы пасведчанне аб заканчэнні II курса семінарыі, увесну 1944 года я добраахвотна паступіў у Першую беларускую афіцэрскую школу ў Мінску. Тут рыхтавалі афіцэраў для БКА. Мне вельмі падабалася вайсковая навука.

Неўзабаве прыйшлося ўсёй школе пешшу адступаць перад надыходам савецкіх войскаў. Каля Вільні некалькі навагрудскіх хлопцаў, у тым ліку і я, далучыліся да швадрона Барыса Рагулі і з імі дабраліся да Навагрудка. У Навагрудку на замкавай гары Рагуля, сабраўшы нас усіх, сказаў: «Я забраў вас з Навагрудку, я і прывёў у Навагрудак. А цяпер хто хоча са мною — пойдзем на Захад, а хто хоча — заставайцеся ў Навагрудку, разыходзьцеся па дамах. Невядома, што нас чакае, калі пойдзем на Захад. Але вядома, што будзе, калі застанемся тут». Я застаўся тут. Не ўяўляў сабе жыцця без Беларусі.

Аднак на Беларусі мне нядоўга давялося жыць. Спраўдзіліся словы Рагулі. У ноч з 13 на 14 снежня 1944 года мяне арыштавалі ў інтэрнаце Навагрудскай педагагічнай вучэльні, дзе я вучыўся на III курсе. Пасадзілі мяне ў Навагрудскую турму, дзе і Рагуля сядзеў яшчэ пры «першых саветах». У адной камеры са мною сядзеў дырэктар Навагрудскай настаўніцкай семінарыі Пятро Скрабец. Пасля месяца турэмнага зняволення без суда і допытаў 42 сутак везлі ў «цялятніках» без нараў да Варкуты Комі АССР. Асудзілі завочна «особым совещанием» на 3 гады лагернага зняволення.

Пасля звальнення вярнуўся ў Навагрудак. Паступіў у 10 клас вячэрняй школы рабочай моладзі. Тут мы, 5 юнакоў (Казак Гена, Кожыч Міхась, Дзямянчук Пятро, Усюкевіч Саша і я) стварылі аргкамітэт і арганізавалі падпольную беларускую патрыятычную арганізацыю Саюз вызвалення Беларусі (СВБ). Ноччу 30 траўня 1947 года, пасля першага экзамена на атэстат сталасці, мы былі арыштаваныя. 30 жніўня 1947 года ваенным трыбуналам войскаў МВД Баранавіцкай вобласці мы былі асуджаныя на розныя тэрміны зняволення. Мне далі 10 гадоў пазбаўлення волі, плюс 5 гадоў высылкі.

**Кастусь РАМАНОВІЧ**



*На здымку — аўтар ліста. Яму 71 год, цяпер жыве ў Пінску.*

*КАДРЫ*




# Граждане не зря волнуются

## *Дела в экономике тому причина*

В последнее время обыватель ощущает много тревожных сигналов. Заходит в магазин и видит, что мука стоит не двадцать, а 45 тысяч рублей. Идет по улице и встречает не одного, а трех пьяниц. Приходит домой и отдает жене зарплату весом не в шестьдесят, а тридцать долларов. Включает телевизор и видит не солидного, а растерянного начальника, «тыкающего» на своих подчиненных за растущие цены и падающий рубль. Обыватель нутром чует опасность. И он не зря волнуется. Дела в экономике тому причина.

Экономика — живая материя. Она в очередной раз «выбрыкивается», показывает свой норов. Сегодня экономика получила мощнейшие удары по своему хронически больному организму. Во-первых, она сама слаба. К ее телу присосались тысячи неэффективных заводов и колхозов, питающихся ее ресурсами и не обагащающих ни своих рабочих, ни государственный бюджет. Здоровье экономического организма ухудшается с каждым днём. Скоро у предприятий не останется средств, чтобы обновлять и ремонтировать оборудование. Не на чем будет перерабатывать ресурсы.

Во-вторых, у нашей экономики начали ампутировать конечность. Из-за российского финансового кризиса она вынуждена сокращать экспорт. Дело в том, что белорусская экономика, не имеющая природных богатств, вынуждена их закупать в России и туда же отправлять продукцию обрабатывающих отраслей. Недавно были слышны победные реляции по поводу роста белорусского экспорта в Россию. На какое-то время наши предприятия нашли рынки сбыта, стабилизировали производство, выплатили зарплату рабочим и налоги в бюджет. Но Россия оказалась слишком нестабильной страной. Кто бы мог подумать, что рискованные банковские операции по купле-продаже ГКО обернутся крахом банковской системы и падением российского рубля. Остановились финансовые платежи, упал рубль. Как теперь продавать нашу продукцию России? За обесцененные рубли себе в убыток? На такой шаг не пойдет даже самый заботливый интегратор и славянофил. Как говорится, дружба дружбой, а денежки — врозь. В итоге белорусские предприятия теряют значительный рынок сбыта, вынуждены сокращать производство. Опять рабочих ждут нищенская зарплата и ничегонеделание.

В-третьих, ненадежная кровеносная денежная система Беларуси, не имеющая иммунитета, заболела вирусом финансового СПИДа от своей соседки. Рухнувший российский рубль потянул за собой рубль белорусский. Россия для нас — главный партнер, поэтому ее финансовый кризис сказался на нас так ощутимо. Этого могло бы не произойти, если бы мы имели реформированную экономику и сильный денежный иммунитет, т.е. привязку белорусского рубля к твердой валюте. Что для нашего экономического организма значит девальвация рубля, которая уже происходит? Рост цен, снижение спроса, сокращение производства, материальные невзгоды граждан.

Внутренние и внешние условия существования белорусского экономического организма настолько неблагоприятны, что речь идет не просто об ампутации конечности, болезни крови и размножении множества паразитов, а о жизни самого больного. Не зря волнуется сегодня наш измученный обыватель, слыша замедленный пульс экономики и затягивающий потуже пояс на своих штанах.

**Людмила ГРЯЗНОВА**

*Радкі з лістоў*

**ХОТИМ ЧЕРЕЗ ВАШУ ГАЗЕТУ** поблагодарить Европейский союз молодежи из немецкого города Дрездена и белорусский фонд «Детям Чернобыля». Второй год подряд они организовывают отдых детей из города Пинска. Этим летом наши дети провели незабываемые дни (целый месяц) в горах Шеллерхау у господина Райнера Шварца. Детям было уделено очень много внимания и заботы. Благодаря экологически чистым продуктам, сокам, фруктам ребята оздоровились и окрепли. Детям очень понравилось прибывание в Германии, и они мечтают еще раз побывать, отдохнуть и встретиться с добрыми, отзывчивыми друзьями Даниелем и Конрадом Кестлером, Торстеном Уиндлером и семьей Райнера Шварца.

*Родители:* **Буткевич, Горшкалёвы, Демчук, Дубровские, Жогальские, Журбило, Колокольцевы, Корсак, Купченко, Михальчук, Хлус, Мозолевские, Юш**



# Работать приходится «за спасибо»

Здравствуйте, уважаемая редакция! Я ваш давний и постоянный читатель. А написать захотелось просто о жизни. Вот получил недавно зарплату — аж целых 70 долларов. Теперь с женой и маленьким ребенком думаем, как прожить месяц, чтобы не умереть с голоду и не остаться босыми. Жена трудоустроиться не может. А ведь есть люди с зарплатой в 15—20 долларов. Практически каждая третья семья из моих многочисленных друзей живет в нищете. И ничего! Жаль, что наш «памяркоўны» беларус так воспитан: его унижают, заставляют работать «за спасибо», его, как послушное стадо, погонят в нужный момент куда надо — а народ молчит. Разум за многие годы рабского существования атрофировался и к тому-же приглушен пьянством и каждодневными посулами о сладкой жизни. Работаем ради того, чтобы за свой труд получать гроши да сладкие обещания.

Хочу коснуться нашего до беспредела серого БТ — Белорусского телевидения. Вот уж настоящая фабрика лжи. Слушаешь по телевизору о том, как чудесно жить в Беларуси, выходишь на улицу и как будто в другую страну попал.

Недавно смотрел передачу о проблемах безработицы: на экране, вяло шевеля губами, о чем-то мямлили три человека, и я гадал кто-же из них уснет первым? Потом пошли сообщения о битвах за небывалый урожай, где круглолицые руководители и разного рода «старшыні» задорно, но с тоской в глазах, рассказывали о том, как незабвенный президент помогает им в жатве. А вечером всем нам знакомый «телебык» А.Зимовский вновь вел «бой с тенью», отгоняя от нашего кормчего различного рода врагов и диверсантов.

Нетрудно понять, почему нас презирают почти во всем мире — за ложь в отношении своего народа. Приехавший ко мне родственник из Москвы посмотрел наше БТ и говорит: уж на что мы в России доведены до скотского состояния, но вы, белорусы, и вовсе безмолвное стадо.

Официальные газеты пестрят фотографиями с полей, где счастливые (неизвестно, правда, от чего) труженики села вкалывают за миллион зайцев и, судя по репортажам, рады этому бесконечно. И ни слова о том, что эти люди еле сводят концы с концами, что комбайнеры, отпахав смену, доходят домой при помощи стакана.

Деревенские старики, которые помнят времена Западной Беларуси, говорят, что тогда всем хватало еды, хватало работы, люди по-настоящему жили весело, только ленивый не жил зажиточно. Но вот пришли «освободители» с Востока. Припомню слова своей бабушки: «Пришли коммунисты, все почти босые, многие в кальсонах, голодные. Всю скотину забрали в колхозы, которые спешно создавали. Но еще больше съели. Разграбили церкви и костелы». Это слова человека, который сам все видел. После этого «освобождения» пришли голод, нищета и пьянство в наши деревни. И подобные люди правят нами до сих пор. Правда, теперь они хорошо одеты и сыты, но грабить они не разучились.

Теперь Беларусь «благодаря» своей непутевой политике никому и не нужна, хоть и находится в центре Европы. Припоминаю один дикий случай на границе в Бресте. Чешские правозащитники, возвращаясь из Беларуси, везли с собой несколько независимых белорусских газет. Так вот на границе все эти газеты конфисковали — на том основании, что в них, якобы, содержится поклеп на политику президента. Вот такой дикий случай. Поэтому не удивительно, что от нас отгораживаются даже поляки.

**С.БОГУСЬ,** *г.Брест*







*На снимках: так реагировал украинский парламент на выступление спикера российской Госдумы Геннадия Селезнева, который заявил о целесообразности вхождения Украины в союз с РФ и Беларусью. Депутаты от Народного Руха расценили это как провокацию и покинули зал заседаний. А украинские коммунисты бурно аплодировали российскому гостю. Однако выступление Г.Селезнева фактически было сорвано.*

*Вскоре после этого инцидента президент Украины Леонид Кучма заявил, что Киев выступает категорически против тройственного союза славянских государств. Он считает, что даже Беларуси этот союз ничего хорошего не принес.*

# Хоть скули, хоть не скули, но случились Вискули

**Константин СКУРАТОВИЧ**



Полтора месяца в Москве царила политическая неразбериха и главные архитекторы славянского союза пребывали не у дел. Ныне порядка в первопрестольной, конечно, не прибавилось, но появилось правительство, которое этот порядок, как всегда, пообещало навести. Поэтому, за неимением лучшего, ностальгирующей публике показывают козырную интеграционную карту. Геннадий Селезнев выложил ее прямо на трибуне Верховного Совета Украины. Но публика оказалась не та: на Украине нет по этому поводу принципиального единства. Скорее наоборот, существует принципиальное различие, и такого рода интеграционные трюки способны разве что расколоть общество со всеми отсюда вытекающими последствиями.

А вообще, ностальгия — чувство приятное, но, скажем так, созерцательное. В отличие от, например, аллергии, которая ничего приятного не сулит и от которой надо любой ценой избавляться. А сделать это невозможно, не устранив сами раздражители.

В этой связи возникает вопрос: что конкретно стоит за интеграционными предложениями, кроме голого политиканства? Что может предложить Селезнев Украине и Беларуси, если в самой России людям уже нечего есть? Если в очередной раз рухнул рынок труда, и к 10% неработающего населения прибавилось до 1/3 самой квалифицированной и высокооплачиваемой рабочей силы? Если самые светлые российские умы десятилетиями не могут дать объяснения происходящему в этой стране, ссылаясь на то, что умом это не понять.

Хотя то Россию как раз можно понять. Ее экономика целиком зависит от Запада, и ей хотелось бы восстановить свои непосредственные границы с Европой. Это сулит разнообразные выгоды. Как прямые (торговля без посредников и транзитов), так и косвенные (усиление присутствия в Европе, умиротворение «россиян» за счет удовлетворенных имперских амбиций) и прочие приятные вещи, которыми, имея европейский статус, не желает или не умеет воспользоваться Беларусь. То есть не сама Беларусь, а ее лидеры, политические и ментальные качества которых, советские по сути, недостаточны, чтобы эти возможности использовать.

На того же Лукашенко, который до Вискулей имел лишь весьма относительный суверенитет в совхозе, в одночасье свалился государственный суверенитет. После этого вполне можно было утверждать себя в ранге европейского политика, ведь в Беларуси территориальных, людских, геополитических ресурсов нисколько не меньше, чем у Чехии, Австрии или Венгрии, не говоря уже о соседних с нами странах Балтии. Так нет же, вместо политики — сплошной скулеж, вместо принципов — эмоции, вместо стратегии — хитрости. И так во всем. В конечном итоге у нас, точно так же как и в России, уже никто решительно ничего не понимает.

Говорят, что мы ищем стратегических партнеров, а оказывается, что это не Польша, а Ирак, не Германия, а Вьетнам. Что можно купить в этой стране кроме циновок? Проводят какие-то сплошные праздники, какие-то «дожинки», когда хлеб еще не убран, а на картофельных плантациях, как и в прежние годы, горбатятся не колхозники, а студенты. Впрочем, никто уже давно в Беларуси не горбатится, ибо то пособие, которое выдают на предприятиях, только наивный человек может назвать зарплатой. Нам твердят об интеграции с Россией, в доказательство прилюдно, что называется, вырывают из земли пограничные столбы. А назавтра вся милиция дежурит на дорогах, чтобы воспрепятствовать вывозу продовольствия в «братскую» страну. В итоге милиция выгружает на обочину фуры с уже оплаченным картофелем, с которым никто не знает что делать.

Это так восстанавливают «прерванные хозяйственные связи» и «дружбу славянских народов»? А кто вообще придумал, что Россия страна славянская?

Чума на оба ваших дома...

# Беларусы і палякі: чыя крыўда большая?

**У Польшчы няма беларускіх школ. У Беларусі польскія, хоць і з вялікай цяжкасцю, але з'яўляюцца. Дыскусія пра школу для нацменшасцяў, а таксама наконт узаемадачыненняў паміж двума суседнімі народамі адбылася на беларуска-польскай канферэнцыі ў Гродне.**

## Фізкультура на польскай мове

Канферэнцыю вырашыў выкарыстаць у сваім змаганні за польскамоўную школу Саюз палякаў. Вельмі рэзка выступіў старшыня СПБ Тадэвуш Гавін. Але нечакана для мясцовых палякаў выказаўся прафесар Т.Левашкевіч з Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук (які сам родам з Навагрудка). Ён сказаў, што кожная меншасць павінна добра ведаць дзяржаўную мову. У Польшчы, у Бельскім ліцэі, які называецца беларускім, «ніхто не дамагаецца, каб усё было толькі па-беларуску». Вось чаму, лічыць ён, пазіцыя Саюза палякаў нерацыянальная ў тым, што ён імкнецца, каб усе прадметы вывучаліся школьнікамі на польскай мове. Гэта можа не спадабацца беларусам, сказаў прафесар. Таму трэба ўсё вельмі ўзважыць.

Начальнік абласнога ўпраўлення адукацыі У.Гаўрон патлумачыў сітуацыю з польскамоўным навучаннем на Гродзеншчыне. Польская мова выкладаецца ў 24% школ, яе вывучае 9 тысяч вучняў у 198 класах.

Спадар Гаўрон таксама патлумачыў, што канцэпцыя міністэрства адукацыі такая, каб на польскай мове выкладаць гуманітарныя дысцыпліны, астатнія — па-беларуску. Тым часам, як Саюз палякаў патрабуе, каб нават каманды на фізкультуры вымаўляліся толькі па-польску. Куды гэтыя дзеці пойдуць потым працягваць вучобу, у ПТВ? — запытаўся ён. Бо якасць ведаў у іх слабейшая, чым у звычайнай школе. Усе ў Польшчу вучыцца не паедуць. А як хлопцам потым служыць у беларускай арміі?

Госць з Беластока, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Я.Сычэўскі падкрэсліў, што міф, створаны польскай прэсай наконт таго, што на Беласточчыне існуе 42 беларускія школы і 2 ліцэі — няпраўда. У гэтых польскіх школах толькі вывучаецца беларуская мова, прычым гэта неабавязковы прадмет. Агулам беларускую мову на Беласточчыне вывучае 4.300 вучняў, — значна менш, чым польскую на Гродзеншчыне.

Цікава, што адзін польскі прафесар сказаў, што не ўяўляе, каб у Польшчы ў школе ўсе дысцыпліны маглі выкладацца толькі на беларускай мове. Калі заходзіць мова аб параўнаннях: што лепш развіваецца — беларуская школа ў Польшчы ці польская ў Беларусі — звычайна палякі па абодва бакі мяжы безапеляцыйна сцвярджаюць, што беларусы на Беласточчыне самі не патрабуюць стварэння беларускай школы. Але ў гэтым толькі палова праўды. Усім зразумела, што каб яны мелі за спінай дзяржаву, у якой нацыянальныя школы не закрывалі кожны год, а наадварот, і дзе б існавалі беларускія універсітэты, настрой у іх быў бы іншы. А так людзі гавораць: навошта беларуская мова ў Польшчы, калі яе на Беларусі амаль няма?

Што да Саюза палякаў, дык яму няма чаго арыентавацца на беластоцкіх беларусаў. СПБ ставіць перад сабой большыя мэты і будзе іх дамагацца. У гэтым змаганні ёсць нечаканы паварот: улады, стрымліваючы палякаў, адстойваюць беларускую школу, якая ў райцэнтрах яшчэ далёка не так знішчана, як у Гродне. Аднак нам не варта абурацца ўпартасцю палякаў, бо не яны сёння зачыняюць нашы беларускія школы. Нам трэба лепей вучыцца ў палякаў змаганню.

## Армія Краёва і беларусы

Што пішуць пра беларусаў у Польшчы, а пра палякаў — у Беларусі? На гэтую тэму было сказана шмат. Прафесар І.Крэнь (Гродна) падсумаваў усё тое, што напісана ў нас пра Армію Краёву, тэма якой у савецкія часы была, па сутнасці, пад забаронай — каб не пакрыўдзіць «Народную Польшчу». Вядома, што АК ваявала за адраджэнне Польшчы ў межах 1939 года. Вядома таксама, што ў яе шэрагах было да 40% беларусаў, не зважаючы што існаваў загад браць толькі палякаў, хаця дзейнічала яна на тэрыторыі Беларусі.

На жаль, палякі дагэтуль зыходзяць з пастулату, што калі Заходняя Беларусь была ў міжваенны перыяд у складзе польскай дзяржавы, дык значыцца гэта — Польшча. Яны пачынаюць гаварыць пра крыўды, якія былі нанесеныя палякам у XX ст., і зусім не зважаюць на беларусаў, якія як быццам і не існавалі. Адзін з членаў СПБ, на жаль, дагаварыўся да таго, што нібыта беларусаў літаральна не было да XX стагоддзя і што яны ніколі не мелі сваёй дзяржавы і не выяўлялі такога жадання. Але ж варта было зазірнуць у энцыклапедыю, каб пераканацца ў тым, што беларуская народнасць паявілася ў 14-16 ст.ст. Альбо што Беларускую Народную Рэспубліку прызналі некалькі краінаў, але пахаваная яна была, па сутнасці, зладжанымі дзеяннямі з двух бакоў бальшавікоў і палякаў. Апошні беларускі горад Гродна ўрад БНР мусіў пакінуць пад ціскам палякаў, якія раззброілі адзіны беларускі полк.

Другі член СПБ літаральна сказаў, што ў даваенай Польшчы для беларусаў быў сапраўдны рай у параўнанні са сталінскім СССР. Сапраўды, у Польшчы не было Салаўкоў і Сібіры, але беларускіх ксяндзоў высылалі ў іншыя месцы — каб толькі беларуская мова не гучала ў касцёле. Да 1939 года ў Польшчы былі зачыненыя ўсе беларускія школы (якіх было 400), апроч Віленскай гімназіі.

Цікава, што абодвум выступоўцам запярэчыў прафесар з Беластока М. Кандрацюк: як гэта не было Беларусі? Гэта непаразуменне. Трэба ячшэ разабрацца, якой дзяржавай было Вялікае Княства Літоўскае, якая цывілізацыя там панавала і хто з'яўляецца яго спадчыннікамі? А спадар Сычэўскі дадаў, што не хацеў бы гаварыць пра мінулыя крыўды, але да вайны ў Польшчы было разбурана 400 цэркваў, а ўжо ў пасляваенныя гады на Беласточчыне акаўцы знішчалі менавіта беларускія вёскі разам з насельніцтвам.

«Шлях да ўзаемнасці» (такую назву мела канферэнцыя) завяршыўся канцэртам, на якім спявалі беларускія ансамблі з Польшчы і польскія — з Беларусі.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

